ВОДГУК

# Падтрымаем ініцыятыву Паўла Левінава

У рубрыцы **“Дэмакратыя па-беларуску”** Алег Сноў у артыкуле **“Чаму Паўлу Левінаву забаранілі схадзіць у магазін?”** (“Народная Воля” №85(3928) ад 31 кастрычніка 2014 года) давёў да ведама чытачоў ***“дзікунскую сітуацыю з правядзеннем вулічных мерапрыемстваў”*** у Віцебску, якая на самай справе назіраецца па ўсёй краіне.

Я проста ў захапленні ад неардынарнай ініцыятывы віцебскага праваабаронцы Паўла Левінава, які ***“вырашыў давесці сітуацыю з атрыманнем дазволу на правядзенне вулічнага ці іншага мерапрыемства да абсурду, каб кожнаму стала зразумела”*** сутнасць дзяржаўнага рэжыму, які сфарміраваўся падчас кіравання А.Р.Лукашэнкі. Бо другім чынам паказаць абсурднасць дзеянняў службовых асоб гэтага рэжыму няма ніякай магчымасці.

Адначасова трэба адзначыць, што дзеянні праваабаронцаў з Віцебска, аб якіх ідзе размова ў прыведзеным артыкуле, накіраваны на ажыццяўленне вельмі важнай працы для будучыні краіны, бо яны збіраюць сучасную афіцыйную, зарэгістраваную на паперы дзяржаўнага ўзору, пад дзяржаўным гербам, за подпісам канкрэтных выканаўцаў інфармацыю аб парушэнні не толькі правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян, але і дзейнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь з боку службовых асоб амаль усіх структур дзяржаўнага кіравання.

Такіх праваабаронцаў, што ўжо маюць на руках абсурдныя, дзікунскія забароны ўлад на выкананне простых чалавечых патрэб і памкненняў, што прадугледжаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, ніяк нельга абвінаваціць у якіх-небудзь недарэчных дзеяннях супраць існуючых парадкаў, якія ўсталяваліся ва ўладных структурах краіны. Бо тады трэба не прызнаваць незлічоную колькасць такіх бязглуздых афіцыйных адказаў ні аб чым, у якіх утрымліваюцца правапарушэнні чыноўнікаў, зафіксаваны іх пасады і асабістыя подпісы. На такія захады не адважыцца пайсці нават А.Р.Лукашэнка, усведамляючы магчымыя наступствы як у краіне, так і па-за яе межамі.

Тое, што ***“патрабаванні рашэння гарвыканкама №881 невыканальныя, што яно прайшло юрыдычную экспертызу, унесена ў рэестр прававых актаў і таму быццам бы бездакорнае”,*** не азначае, што чыноўнікам з Віцебскага гарвыканкама не абавязкова прытрымлівацца патрабаванняў заканадаўчых актаў больш высокага рангу. Але зараз у Рэспубліцы Беларусь для чыноўнікаў усіх узроўняў закон наогул не існуе, выконваць яго патрабаванні няма ніякай патрэбы, бо за парушэнні любых законаў у адносінах да правоў, свабод і законных інтарэсаў грамадзян яны адказнасці не нясуць па вызначэнні.

З гэтай прычыны ў Рэспубліцы Беларусь яшчэ не вынайдзены спосаб, з дапамогай якога можна на падставе закона прымусіць беларускага суддзю, пракурора, міліцыянта, чыноўніка любога рангу дзейнічаць у адпаведнасці з патрабаваннямі існуючых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь, хоць у суседняй Украіне такія захады ўжо знойдзены, а лёс такіх чыноўнікаў — вядомы.

Так набліжайма прававую дзяржаву — Рэспубліку Беларусь, паўсюдна збіраючы інфармацыю аб катастрафічным прававым бязмежжы і прававым нігілізме, што маюць месца амаль ва ўсіх структурах дзяржаўнага кіравання ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь, як тое ўжо робіць Павел Левінаў і іншыя праваабаронцы ў Віцебску!

**Эльяш БАНЕЛЬ, інжынер.**

*Мінск.*

SOS!

# Знік чалавек...

***Чаму ў сучасных умовах, калі нават у маленькіх дзяцей ёсць мабільныя тэлефоны, людзі знікаюць без вестак? Як правільна паводзіць сябе ў крытычнай сітуацыі? Аб гэтым гутарка з Юліяй Коўган — інфармацыйным каардынатарам пошукава-выратавальнага атрада “Анёл”.***

**— Хто часцей за ўсё знікае ў Беларусі?**

— Пажылыя людзі, у якіх ёсць праблемы са здароўем і здараюцца страты памяці. Значна радзей, на шчасце, у параўнанні з РФ у нас знікаюць дзеці. Часцяком яны знаходзяцца за некалькі гадзін. У сезон нам значна дадаюць працы грыбнікі і ягаднікі, якія губляюць арыентацыю, захапіўшыся зборам, альбо ім робіцца кепска, і яны не могуць самастойна выйсці з лесу.

Вельмі вялікі працэнт зніклых без вестак складаюць людзі, якія з’язджаюць на заробкі ў Расію. У асноўным гэта мужчыны ці маладыя людзі з перыферыі, якія едуць непасрэдна ў Маскву, не маючы дакладнай інфармацыі пра сваіх будучых працадаўцаў. Статыстыка паказвае, што 70—80 працэнтаў такіх выпадкаў заканчваюцца тым, што людзі трапляюць, можна сказаць, у рабства. Існуе добра арганізаваная злачынная схема, калі пад уздзеяннем псіхатропных прэпаратаў людзей вывозяць у Дагестан, дзе яны аказваюцца без дакументаў і грошай, і ім даводзіцца працаваць, таму што іншага выйсця проста няма. Калі нейкім цудам гэтым людзям удаецца паведаміць родным, што з імі здарылася бяда, нам даводзіцца разам з іх сваякамі і нашымі калегамі з расійскага аб’яднання “Альтэрнатыва” арганізоўваць іх вяртанне, бо чалавеку без дакументаў вельмі складана трапіць на радзіму, нават калі паміж дзяржавамі няма межаў.

**— У нас у краіне дастаткова шматлікія сілавыя структуры, у функцыі якіх уваходзіць абарона і выратаванне грамадзян ад вонкавых і ўнутраных пагроз. Чаму ўзнікла неабходнасць у вашай арганізацыі?**

— Калі чалавек знік, то самы важны момант — не ўпусціць час. Чым больш аператыўна пачынаецца пошук, тым больш шанцаў знайсці чалавека жывым і здаровым. І ў гэтым плане дзяржаўным сілавым структурам дзейнічаць аператыўна часам перашкаджаюць бюракратычныя затрымкі, напрыклад, неабходнасць атрымання пісьмовых дазволаў ад кіраўніцтва, што не заўсёды можна зрабіць хутка. А мы з моманту падачы заявы ў міліцыю і паступлення да нас заяўкі можам за гадзіну сабраць групу і выехаць на пошукі чалавека. Акрамя таго, у МНС і МУС даволі шырокі спектр дзейнасці, а ў нас вельмі вузкая спецыялізацыя, і з моманту свайго стварэння ў 2012 годзе наш атрад неаднаразова дэманстраваў, што ў гэтым ёсць несумненныя перавагі.

Толькі ў 2013 годзе мы дапамаглі ў пошуку чатырохсот пяцідзесяці чалавек. Даказваць сваю патрэбнасць грамадскасці і дзяржаўным структурам нам ужо не трэба — за нас красамоўна кажуць вынікі. Цяпер мы ў працэсе рэгістрацыі грамадскага аб’яднання “Пошукава-выратавальны атрад “Анёл”. Гэта дазволіць нам атрымліваць дзяржаўнае фінансаванне, адпаведна, паляпшаць матэрыяльную базу атрада, праводзіць навучанне і тым самым удасканальваць працу.

**— Гэта значыць, увесь гэты час добраахвотнікі працуюць абсалютна бясплатна? Хто ж гэтыя людзі і чым яны кіруюцца, выбіраючы такую няпростую грамадскую дзейнасць?**

— У атрад людзі прыходзяць з розных прычын. Некаторыя самі ўдзельнічалі ў пошуку сваіх зніклых сваякоў або сяброў, а затым вырашылі застацца ў атрадзе і дапамагаць іншым. Вельмі многія даведваюцца пра нас са СМІ і сацыяльных сетак, тэлефануюць і пішуць, прапаноўваючы ўдзел альбо іншую форму дапамогі. Першапачаткова меркавалася, што атрад будзе складацца з 10—30 спецыялістаў па пошуку, але на дадзены момант у Беларусі каля 80 чалавек, якія пастаянна адсочваюць навіны, прымаюць заяўкі, размаўляюць з прадстаўнікамі міліцыі і крымінальнага вышуку. Толькі ў групе “ВКонтакте” ў нас 46 тысяч падпісчыкаў, рэальныя людзі, гатовыя выйсці з намі на пошукі ў любы момант.

**— Апошнім часам вельмі вялікай папулярнасцю карыстаюцца шоу, у якіх экстрасэнсы дэманструюць свае ўнікальныя здольнасці, у тым ліку дапамагаюць знаходзіць зніклых людзей. Ці быў у вашага атрада вопыт узаемадзеяння з людзьмі з экстрасэнсорнымі здольнасцямі?**

— На нас выходзілі экстрасэнсы, і мы спрабавалі супрацоўнічаць, аднак пакуль ім не ўдавалася нам дапамагчы.

**— Што заахвоціла асабіста вас, маладую дзяўчыну, займацца такой складанай у эмацыйным плане дзейнасцю? Былі моманты, калі вам здавалася, што ўсё гэта вышэй за вашы сілы і хацелася ўсё кінуць?**

— Пра дзейнасць “Анёла” я даведалася ад камандзіра атрада Сяргея Коўгана. Мяне вельмі ўразіла, што ёсць вось такія хлопцы. А калі ім спатрэбіўся памочнік для вядзення групы і размяшчэння інфармацыі на сайце, я выказала жаданне дапамагчы. Мне быў цікавы гэты кірунак, паступова я пачала ўдзельнічаць у пошуках. Цяпер Сяргей — мой муж, і цалкам лагічна, што я і далей буду ісці за ім.

**Ганна ТРУБАЧОВА, Юлія КАПУСЦІНА.**

ЛІСТ БАЛЕЛЬШЧЫКА

# Чаму падчас футбольных матчаў нашы стадыёны яшчэ доўга будуць пуставаць...

Для аматараў футбола пазамінулы чацвер быў незвычайным днём: праводзіліся чарговыя матчы Лігі Еўропы. Заўзятары гэтай цікавай гульні мелі магчымасць адпачыць, палюбавацца майстэрствам любімых дружын. Аддацца гэтаму вырашыў і я, тым больш што ў Барысаве дынамаўцы Мінска прымалі грэчаскі клуб “ПАОК”. Скажу адразу, што на нешта вялікае я не спадзяваўся, памятуючы, што не так даўно нашы футбалісты ў Салоніках саступілі гаспадарам з лікам 1:6.

І вось гульня дома, перад сваімі балельшчыкамі. Можа, хоць што-небудзь зменіцца, нярэдка ж бывае, што спартсмены пасля правальнага матча ў гасцях дома ўмеюць парадаваць сваіх прыхільнікаў. Бывае, але, на жаль, не ў нас. Дружына, якая на сённяшні дзень займае другую ступень у чэмпіянаце, прэтэндуе на серабро рэспубліканскага першынства, згуляла з грэкамі вяла, ніякай барацьбы і самааддачы, адна-дзве перадачы мяча — і ён ужо ў саперніка. І як вынік — параза 0:2. Не футбол — адно расчараванне!

Паралельна з гэтай гульнёй я сачыў за паядынкам нямецкага “Вольфсбурга” з англійскім “Эвертонам”. Зусім другая сітуацыя! Гаспадары поля ў пастаянным нападзенні, госці адказваюць тым жа. Працяглы час роўная гульня, лік нічыйны. Але вось англічане адкрываюць лік — 1:0. Гаспадары не здаюцца, ідуць і ідуць наперад. Хоць, як часта бывае ў футболе, мяч не “лезе” ў вароты. Пасля ўпартай барацьбы госці ўсё ж забіваюць другі мяч. Перамога за англічанамі на нямецкай зямлі — 2:0. Свята для аматараў “Эвертона”!

Пасля прагляду гэтых паядынкаў перакінуўся ў цёплы Мілан, дзе мясцовы “Інтэр” прымаў нашых усходніх суседзяў — футбалістаў днепрапятроўскага “Дняпра”. Уражанне самае пазітыўнае. Здавалася, што ўкраінскія хлопцы гуляюць не ў Мілане, а ў Кіеве. У першым тайме яны гаспадарылі на полі смела, тэхнічна ішлі наперад, іх не маглі стрымаць італьянцы, якія раз за разам парушалі правілы. Хутка госці забілі голпрыгажун, лік адкрыты. Але тэхнічны Яўген Канаплянка ўпарта вядзе і вядзе наперад сваю дружыну. Днепрапятроўцы маглі падвоіць поспех, але, шкада, не забілі мяч з 11-метровай адзнакі.

У другім тайме фартуна ўсё ж павярнулася да італьянцаў, у напружаным паядынку яны перамаглі — 2:1. Але амаль да апошняй хвіліны ўкраінцы змагаліся, ішлі і ішлі наперад, мелі магчымасці выраўняць лік, але, на жаль, той вечар быў, як кажуць, не іх. У маіх вачах (думаю, і не толькі маіх) яны пакідалі арэну Мілана як пераможцы. Днепрапятроўцы мужна і прыгожа змагаліся за гонар сваёй дружыны, свайго горада, сваёй дзяржавы. Малайцы!

Цяпер няцяжка ўявіць, з якім настроем пакідалі стадыён у Барысаве прыхільнікі мінскага “Дынама”. Узяць бы бізун ды адлупцаваць тых футбалістаў, якія ледзь-ледзь перасоўваліся па полі і якім, як мне здалося, было напляваць на гонар клуба, гонар краіны.

Футбольныя аматары майго пакалення добра памятаюць пачатак 1980-х мінулага стагоддзя, калі на стадыёне “Дынама” былі аншлагі, калі ён не мог умясціць усіх жадаючых пабываць на гульні любімай каманды.

Я тады працаваў старшынёй калгаса. І вось аднойчы выпала шчасце прымаць на мясцовым стадыёне “Меліяратар”, што ў вёсцы Дзераўная Стаўбцоўскага раёна, футбалістаў-ветэранаў мінскага “Дынама” на чале з Альбертам Дзенісенкам (царства яму нябеснае). Гэта было сапраўднае свята для мясцовых прыхільнікаў футбола. І вельмі шкада, што добрыя традыцыі гэтага слаўнага калектыву цяпер непазнавальныя, што ніякага свята для сваіх прыхільнікаў яны сёння зладзіць не могуць, што стадыёны пустыя. Думаю, што не адкрываю Амерыку, але пры такім нізкім футбольным майстэрстве нашы стадыёны будуць яшчэ доўга падчас матчаў пустыя...

**Іван ЗАГУСТА, аматар футбола з больш як 50-гадовым стажам.**

*в.Дзераўная Стаўбцоўскага раёна.*

РЭЗАНАНС

# Ситуацию могут разрулить старейшины

“Умница!” — другое слово подобрать трудно. Начал читать статью Светланы Калинкиной “Не допустить Майдана!” с некоторой ухмылкой, а окончил с желанием кричать “Эврика!”.

Не знаю, с кем можно сравнить Светлану Михайловну Калинкину. Ну, она наша белорусская Жанна д’Арк, но пока только в медийном пространстве.

Когда-то я полушутя-полусерьезно предлагал ей выдвигать свою кандидатуру на пост главы государства. Она стократ достойна! Только теперь мне жаль ее терять как журналистку, блистательную журналистку. Посмотрите, какое неожиданное, может быть, парадоксальное, но сулящее возможное освобождение белорусского народа от автократизма предложение выработал ее аналитический разум?! Даже не умом, а сердцем чувствуешь ее правоту.

Предлагаемая когорта старейшин вызывает уважение. Я знал каждого из этой выдающейся пятерки, когда был еще в “рабочем” строю.

Радим Гаврилович Горецкий — выдающийся ученый и общественный деятель, белорус до мозга костей.

Александр Павлович Войтович — бывший президент Академии наук, известный физик, несколько лет был фактическим “старейшиной Республики”, возглавляя Совет Республики Национального собрания Беларуси.

Анатолий Арсеньевич Михайлов — бывший ректор Европейского гуманитарного университета, знаток и практик демократии в сегодняшнем понимании слова.

Геннадий Михайлович Лыч — известный ученый-экономист, общественный деятель, живущий умом и сердцем для нашего народа, превосходный человек.

Нил Сымонович Гилевич — гордость белорусского народа, бывший председатель комитета по культуре и науке Верховного Совета БССР.

Все пятеро мудрецов достойны глубочайшего уважения. Другое дело, насколько у них есть возможность взвалить на себя великую миссию инициировать разработку программы перехода Беларуси к настоящей демократии.

Что касается нынешней оппозиции, она давно стала не просто дряхлой и беззубой, но вызывающей отторжение. Время ее ушло!

Вот если бы мастодонты оппозиции своими организационными структурами поддержали предложение Светланы Михайловны, им можно было бы все простить.

**Эдуард ВАСИЛЬЕВ, пенсионер.**

*Минск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Лаўрэаты III Нацыянальнай прэміі*

***У мінулую нядзелю былі названы лаўрэаты III Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Я толькі што вярнуўся з замежнай паездкі і хачу ведаць, якія спектаклі  якіх тэатраў атрымалі перамогу?***

**Андрэй Канцавенка, Брэст.**



Журы назвала лепшым драматычным спектаклем пастаноўку тэатра імя Горкага “Оракул”.

“Ладдзя роспачы” — найбольш удалы лялечны спектакль.

“Лятучы галандзец” атрымаў перамогу сярод оперных спектакляў.

“Софья Гальшанская” — спектакль Музычнага тэатра — лепшая музычная пастаноўка.

У Тэатры Беларускай Арміі дзеці могуць паглядзець спектакль “Снежная каралева”. Ён таксама прызнаны лепшым.

Вялікі тэатр стаў пераможцам з балетам “Вітаўт”.

**На здымку: Каб атрымаць узнагароду “За ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва”, народная артыстка Беларусі Наталля Гайда выехала на сцэну ў “Шэўрале”, які некалі належаў Янку Купалу.**

ДЫПКУР’ЕР

## *Візы ў Ізраіль пакуль захоўваюцца*

*Пачатак дзеяння бязвізавага рэжыму паміж Беларуссю і Ізраілем пераносіцца.*

Пра гэта ўчора на прэс-канферэнцыі заявіў амбасадар Ізраіля ў Беларусі **Ёсеф Шагал**.

Нагадаем, што 19 верасня бягучага года ў Мінску было падпісана пагадненне паміж беларускім і ізраільскім урадамі, якое тычылася адмены віз для ўладальнікаў нацыянальных пашпартоў грамадзян абедзвюх краін.

У момант падпісання пагаднення было афіцыйна аб’яўлена аб тым, што дакумент пачне дзейнічаць праз 90 дзён пасля яго ратыфікацыі ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі і ў Кнесеце — ізраільскім парламенце.

*— 19 снежня спаўняцца тры месяцы з дня падпісання гэтага пагаднення,* — сказаў Ёсеф Шагал. *— Не ўсе зразумелі, што пагадненне ўступіць у сілу пасля ратыфікацыі дакумента парламентамі абедзвюх краін, а не па заканчэнні 90 дзён пасля падпісання. Што здарылася? Людзі адлічылі 90 дзён пасля падпісання “бязвізавага” пагаднення, і ў мяне зараз ёсць вельмі непрыемнае адчуванне, што 20 снежня людзі паспрабуюць перасекчы беларуска-ізраільскую мяжу без віз і будуць жорстка расчараваны.*

Паводле інфармацыі спадара Шагала, некалькі дзясяткаў беларусаў ужо забраніравалі авіябілеты і гатэлі ў Ізраілі на канец снежня, аднак за візамі ў амбасаду не звярталіся.

*— Гэтым людзям неабходна звярнуцца да нас,* — заклікаў дыпламат. *— Мы абавязкова ім дапаможам, працэс атрымання ізраільскай візы для грамадзян Беларусі займае даволі кароткі час.*

Дыпламат таксама паведаміў, што кошт гасцявой ізраільскай візы для грамадзян Беларусі складае 26 долараў ЗША, у той час як для атрымання беларускай візы ізраільцяніну трэба заплаціць 120 еўра.

*— Добра, што віз у рэшце рэшт не будзе,* — упэўнены амбасадар Ізраіля. *— Але з гэтым трэба пачакаць. Колькі? Пакуль складана назваць канкрэтную дату, аднак, паводле маёй інфармацыі, гэта пытанне можа быць разгледжана Кнесетам у бліжэйшую нядзелю. Што тычыцца беларускага боку, то, наколькі мне вядома, на сённяшні дзень дакументы, якія тычацца бязвізавага рэжыму паміж Беларуссю і Ізраілем, знаходзяцца ў Савеце міністраў вашай краіны.*

Пагадненне ўступіць у сілу праз 90 дзён пасля яго ратыфікацыі беларускімі і ізраільскімі парламентарыямі.

Пра канкрэтную дату адмены віз амбасада Ізраіля ў Беларусі паведаміць у беларускіх СМІ.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Аляксандр ХАЦКЕВІЧ:*

# «Я хоць у чымсьці апярэдзіў Марадону»

*Учора новым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па футболе быў прызначаны вядомы ў мінулым беларускі футбаліст Аляксандр ХАЦКЕВІЧ.*

З Аляксандрам Хацкевічам (а ведаем адзін аднаго мы ўжо даўно) пазаўчора выпадкова сустрэліся ў Нацыянальным аэрапорце Мінск. Разам прыляцелі з Кіева. Разгаварыліся.

*“У адпачынак дадому завітаў,* — распавёў ён. — *У каманды зараз перапынак* (Аляксандр Хацкевіч да апошняга часу ўзначальваў кіеўскае “Дынама-2”. — **Аўт.**)*, а 4 снежня ў Мінску будзе выканкам Федэрацыі футбола”.*

Аляксандр не ўтойваў, што яго кандыдатура будзе разглядацца на пасаду галоўнага трэнера беларускай зборнай, але загадзя нейкія каментарыі на гэты конт даваць адмовіўся.

*“Усяму свой час”,* — філасофскі дадаў ён.

Доўга чакаць не давялося. Учора на выканкаме Беларускай федэрацыі футбола (БФФ) Аляксандр Хацкевіч быў зацверджаны галоўным трэнерам футбольнай зборнай Беларусі. 18 сябраў федэрацыі прагаласавалі за яго кандыдатуру, адзін устрымаўся. Дарэчы, намеснік старшыні БФФ **Сяргей Сафар’ян** паведаміў, з кім яшчэ вяліся перамовы на гэтую пасаду.

*“Былі актыўныя перамовы з Леанідам Кучуком. Мы не для птушачкі сустракаліся з Віктарам Ганчарэнкам, яму была зроблена прапанова. Разглядаўся яшчэ шэраг кандыдатур з блізкага замежжа. На нас выходзіў агент Алега Блахіна Анатоль Дзям’яненка. Праз агентаў былі самыя розныя прапановы — ад Анціча да Марадоны”,* — сказаў Сяргей Сафар’ян.

41-гадовы Аляксандр Хацкевіч — вядомы ў мінулым беларускі футбаліст, выступаў за мінскае і кіеўскае “Дынама”, за зборную Беларусі. Сяміразовы чэмпіён Украіны, лепшы футбаліст Беларусі 1998 і 2000 гадоў, любячы муж і клапатлівы бацька.

Ілона, жонка Хацкевіча, расгавядала пра сваё знаёмства з Аляксандрам так: *“Мы сустрэліся ў Мінску. Нас пазнаёміла мая лепшая сяброўка, з якой мы сябравалі яшчэ са школы. Тады мы пайшлі на першае спатканне. Я, сяброўка і два Аляксандры. Дарэчы, замест Сашы на сустрэчу павінен быў прыйсці зусім іншы чалавек. Але я прыйшла і ўбачыла гэтага сімпатычнага хлопца. Высокі, статны, у спартыўным касцюме... Пастаянна жартаваў, шчыра ўсміхаўся. Мы ажаніліся праз год пасля знаёмства. Да слова, сведкай на вяселлі і быў той хлопец, што павінен быў прыйсці замест Сашы на спатканне... У нас два сыны. Малодшы Арцём і старэйшы Уладзіслаў, які сур’ёзна займаецца тэнісам”.*

Яшчэ некалькі месяцаў таму Аляксандр Хацкевіч распавядаў “Народнай Волі”, што не супраць узначаліць беларускую каманду. І вось — словы набылі канкрэтны змест. Ці не баіцца трэнер сапсаваць сабе рэпутацыю ў зборнай Беларусі?

— Кожнаму чалавеку ёсць што губляць, — адказвае новапрызначаны настаўнік. — У гэтым годзе я, на жаль, згубіў свайго блізкага сябра *(памёр Валянцін Бялькевіч, з якім Аляксандр Хацкевіч сябраваў і на футбольным полі, і ў жыцці. —* **Аўт.**). Мы маладыя, трэнерская пасада — гэта творчасць. Заўсёды існуе рызыка. Але рэпутацыя заваёўваецца не адным днём і не адным годам. Асабіста я не баюся яе згубіць ... Калі ўбачу, што не спраўляюся са сваімі абавязкамі, прэтэнзій па кантрактных абавязках да працадаўцаў у мяне не будзе. Ёсць дамова, што калі няма прагрэсу, то трымацца за месца не буду.

**— Нейкія канкрэтныя задачы перад вамі ставяцца ў гэтым адборачным цыкле?**

— Існуе такі пункт, але не маю права яго агалошваць. Зразумела, чым вышэй падымемся — тым лепш. Зрэшты, кожная гульня — гэта перспектыва.

**— Зараз вельмі малая цікавасць да нацыянальнай зборнай. Як збіраецеся вярнуць балельшчыкаў на стадыёны?**

— У першую чаргу — вынік, гульня. Але першая трэніроўка на зборы будзе цалкам адкрытай.




**— Што адкажаце тым, хто лічыць, што ў вас яшчэ недастаткова вопыту для такой працы?**

— Маладым у нас дарога... Вопыт? Я ўжо шэсць гадоў працую ва Украіне галоўным трэнерам каманды. Ды і сам з шасці гадоў у футболе, у мяне былі цудоўныя настаўнікі. Я бачыў, як працавалі Блахін, Сёмін... Гэта не лічачы Лабаноўскага і Малафеева.

**— Можна сказаць, што зараз вы абышлі Марадону?**

— Хоць у чымсьці яго апярэдзіў. Значыцца, нечага варты.

**Алесь СІВЫ.**

